Гродна
№6 (488),
18 сакавіка 2018
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# НАЙВАЖНЕЙШЫ ТЫДЗЕНЬ У ГОДЗЕ
## *Як яго перажыць?*







Вялікі тыдзень, што распачынаецца ў Пальмовую нядзелю, – гэта час, калі мы павінны адкрыцца на Божую любоў і міласэрнасць. Перажыванне мук, смерці і ўваскрасення Езуса – па сутнасці, яскравае ўсведамленне таго, як моцна Усемагутны нас любіць і як моцна прагне, каб мы на Яго любоў адказвалі ўзаемнасцю.

● працяг на с. 4–5

**“Сяброўства з Езусам пазнаецца ў час выпрабаванняў”. Папа Францішак**




**V НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Ян 12, 20–33**

Былі некаторыя грэкі сярод тых, хто прыйшоў пакланіцца Богу на свята. Яны падышлі да Філіпа, які быў з Бэтсаіды Галілейскай, і прасілі яго, кажучы: "Пане, мы хочам бачыць Езуса". Філіп пайшоў і сказаў пра гэта Андрэю. І пайшлі Андрэй з Філіпам, і расказалі Езусу. А Езус сказаў ім у адказ: "Настала гадзіна ўслаўлення Сына Чалавечага. Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён. Хто любіць жыццё сваё, загубіць яго; а той, хто ненавідзіць жыццё сваё на гэтым свеце, захавае яго для вечнага жыцця. Калі хто служыць Мне, няхай ідзе Маім шляхам; і дзе Я, там будзе і слуга Мой. І хто Мне служыць, таго ўшануе Айцец Мой. Цяпер усхвалявана душа Мая; і што Мне сказаць? Ойча, захавай Мяне ад гэтай гадзіны. Але ж дзеля гэтай гадзіны Я і прыйшоў. Ойча, услаў імя сваё!". І пачуўся з неба голас: "Уславіў і ўслаўлю зноў". Народ, які стаяў і чуў гэта, казаў: "Гэта гром". Іншыя ж казалі: "Анёл гаварыў з Ім". А Езус адказаў, кажучы: "Не дзеля Мяне быў гэты голас, але дзеля вас. Цяпер адбываецца суд над гэтым светам; цяпер князь гэтага свету будзе выкінуты вон. І Я, калі буду ўзняты над зямлёю, усіх прыцягну да сябе". Казаў жа Ён гэта, прадказваючы, якою смерцю меўся памерці.

## СТАЦЬ ЗЯРНЯТКАМ

Езус спрабуе як мага больш зразумела перадаць усім праўду, што на першы погляд здаецца вяршыняй абсурду: праўду аб смерці, якая вядзе да жыцця. Абвычайна, што Ён сам з'яўляецца тым зярняткам, якое павінна памерці, каб прынесці жыццё. Аднак таго ж Пан чакае таксама ад нас: "Дзе Я, там будзе і слуга Мой" (Ян 12, 26). Гэта самае складанае, але адначасова самае абавязковае заданне для чалавека. Бо ўсё існуючае прагне жыцця – найбольшага скарбу кожнага стварэння.

Толькі Хрыстос можа зрабіць чалавека здольным стаць пшанічным зярняткам, дадаць мужнасці, напоўніць моцай. Таму нам так неабходна Яго падтрымка. І мы добра ведаем, што атрымлівае яе кожны, хто шчыра аб гэтым папросіць. Становячыся перад выбарам, ці прыняць гэты выклік, неабходна памятаць, хто адважыцца зрабіць з Панам крок у цемру, разам з Ім увойдзе таксама ў Яго хвалу.

**Ці сапраўды я ўсведамляю, што Езус памёр, каб даць мне вечнае жыццё?**

**Адкуль я чэрпаю сілы, каб паміраць для таго, што эгаістычнае і непатрэбнае?**

**ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ МУКІ ПАНА**
**Мк 11, 1–10**

Калі наблізіліся да Ерузалема, да Бэтфагіі і Бэтаніі, да гары Аліўнай, Езус паслаў двух сваіх вучняў і сказаў ім: "Ідзіце ў вёску, што перад вамі, і адразу, як увойдзеце ў яе, знойдзеце прывязанае асляня, на якое ніхто з людзей яшчэ не сядаў. Адвяжыце яго і прывядзіце. А калі хтосьці вам скажа, навошта вы гэта робіце, адкажыце: «Ён патрэбны Пану, і зараз жа адашле зноў яго сюды»". Яны пайшлі і знайшлі асляня, прывязанае каля дзвярэй знадворку, на вуліцы, і адвязалі яго. І некаторыя з тых, хто стаяў там, казалі ім: "Што вы адвязваеце асляня?". Яны адказалі ім, як наказаў Езус, і тыя адпусцілі іх. І прывялі да Езуса асляня, і паклалі на яго сваё адзенне, а Ён сеў на яго. І многія слалі адзенне сваё на дарозе, а іншыя – галінкі, зрэзаныя на палях. І тыя, хто ішоў спераду і следам за Ім, усклікалі: "Гасанна! Благаслаўлёны той, хто прыходзіць у імя Пана! Благаслаўлёнае валадарства айца нашага Давіда, якое надыходзіць! Гасанна на вышынях!".

## АБВЯШЧАЦЬ БОГА

Бог аб'явіўся ў чалавеку ціхім і пакорным, любячым і верным. Аднак – ці, можа, менавіта па гэтай прычыне – быў адштурхнуты натоўпам, выключаны з "правільна" мыслячай супольнасці. Яго схапілі, падвергнулі жорсткаму допыту і асудзілі на самую бязлітасную смерць. Але Хрыстос да канца застаецца верны свайму Айцу і сабе, хоць па-людску прайграў. Здавалася б, Бог, якому Ён сябе даручыў, да якога так горача маліўся, пакінуў Яго, расчараваў.

Распачынаем Вялікі тыдзень, адначасова ўваходзячы ў "бездань Яго мукі", каб дазволіць Стварыцелю эфектыўна падрыхтаваць нас да выкарыстоўвання. У гэты час з моцай свайго Слова Ён скажа нам: "Ідзіце і абвяшчайце Евангелле", – пашле на перыферыі. Аднак спачатку неабходна пераадолець увесь шлях Езуса, і толькі тады будзем падрыхтаванымі да абвяшчэння Добрай Навіны: не сябе, а Яго.

Пераймаць Хрыста, нашага Адкупіцеля, нялёгка, але гэта магчыма на шляхах, на якія Ён нас паставіў.

**Ці іду дарогай, якую мне вызначыў Езус?**

**Ці магу прыняць і ўвесці ў сваё штодзённае жыццё Божае слова?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Перамога Хрыста

*Час Вялікага посту перажываем у цені Хрыстовага крыжа. У гэтыя дні, якія прыгадваюць нам пра апошнія гадзіны жыцця Збаўцы, крыж становіцца асаблівым знакам Божай любові.*

З першых стагоддзяў хрысціянства да сёння для веруючых людзей крыж заўсёды з'яўляўся сімвалам надзеі. З намашчэннем яго знак чынілі на сваіх грудзях хрысціяне, якія ішлі на смерць на рымскіх арэнах. Часта яго выяву з апошніх сіл стараліся выдрапаць на сцяне ці на койцы вязні ў канцэнтрацыйных лагерах і турмах. З распяццем на грудзях ішлі на смерць благаслаўлёныя сёстры мучаніцы з Навагрудка, 75-ую гадавіну расстрэлу якіх мы будзем узгадваць у гэтым годзе…

Бацькі звычайна чыняць знак крыжа на лбе сваіх сыноў і дачок у важныя моманты іх жыцця: падчас сакраманту хросту, калі дзіця далучаецца да супольнасці Касцёла, падчас Першай св. Камуніі і, урэшце, падчас прыняцця сакраманту сужэнства, святарства ці складання манаскіх абяцанняў. Благаслаўленне святара знакам крыжа на заканчэнне кожнай св. Імшы і набажэнства з'яўляецца для вернікаў вялікім дарам, пасля атрымання якога, напоўненыя духам, мы вяртаемся да сваіх штодзённых абавязкаў. Яго знакам распачынаем чарговы новы дзень.

Кожны хрысціянін прагне мець перад вачамі крыж: там, дзе жыве, дзе церпіць і змагаецца, дзе памірае і дзе яго хаваюць, бо ўсведамляе, што яго зямныя намаганні атрымліваюць належны сэнс менавіта ў святле Езусавага крыжа. Ён з'яўляецца сімвалам хвалы Бога і збаўлення чалавека.

Уваскрасенне Хрыста нельга разглядаць без Яго крыжа. І калі чалавек не пройдзе Крыжовага шляху з Езусам і не атаясаміцца з Яго цярпеннем, радасць ад пустой магілы ўваскрослага Пана будзе няпоўная, павярхоўная, нават проста банальная.

Крыж і змёртвыхпаўстанне Хрыста неразрыўна звязаны таксама з людскім лёсам. Радасць у хрысціянстве заўсёды прыходзіць пасля адрачэння, намагання. Таму чалавек павінен узяць свой крыж, свае пакуты, неспакой, няўдачы, расчараванні, павінен перажыць падзенні і пад'ёмы, каб уваскрэснуць. Павінен таксама, як Хрыстос, прайсці праз смерць, каб знайсці сапраўднае жыццё. Іншым словам, перамога Збаўцы над цярпеннем – гэта перамога чалавека, лёс якога Езус зрабіў сваім лёсам.

Надзея, якая выплывае з крыжа, палягае на даверы да Божай любові, дабрыні і абяцання новага жыцця. З'яўляецца не толькі даверлівым чаканнем будучых даброт, але і выражаецца ва ўпэўненасці ў дапамозе, нястомна ўдзяляемай Усемагутным. Надзея падтрымлівае ў адзіноце, а таксама звернута супраць людской безнадзейнасці і роспачы ды абараняе ад сумненняў і эгаізму.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай надзея будзе для нас крыніцай настойлівасці, каб рэалізаваць хрысціянскае пакліканне ў свеце і здабываць вечнасць. Няхай яна дасць сілу, каб магчы штодзённа ўваскрасаць: з ляноты, залежнасцей, выгод, граху. Няхай узброіць пакорай і цярплівасцю, каб увесь час пачынаць нанова, бо для Бога чалавек ніколі не можа быць страчаны.




# СВ. ДЫЗМА: ЗАСТУПНІК ТЫХ, ХТО ЗАБЛУКАЎ



*У іканаграфіі св. Дызма прадстаўлены як мужчына ў сталым узросце, а часам нават як старац. Яго вопратка – пояс на бёдрах або кароткая туніка. Атрыбутамі святога з'яўляюцца крыж, ланцуг, паліца, меч ці нож.*

***З'яўляецца адзіным чалавекам, якога святым абвясціў сам Хрыстос. Яго імя (ад грэч. dysme – "захад сонца") азначае "народжаны на захадзе сонца". З пазнейшых апакрыфічных пераказаў вядомы як Добры Злачынца.***

***Св. Дызма – заступнік тых, хто заблукаў і хоча вярнуцца на добрую дарогу (між іншым, вязняў, асуджаных і капеланаў турмаў). Аб яго малітве і заступніцтве просяць таксама паміраючыя і пакутнікі.***

### ЗВЯРТАЎСЯ ДА ЕЗУСА ПА ІМЕНІ

Дызма быў адным са злодзеяў, павешаных на крыжы разам з Езусам. Спачатку, як і іншыя, насміхаўся з Хрыста, аднак у апошні момант пакаяўся. Калі за хвіліну да смерці другі злодзей на крыжы кпіў з Езуса, наверунты дакараў яго, гаворачы: "Ты нават Бога не баішся, хоць і сам асуджаны на тое самае? Мы асуджаныя справядліва, бо за тое, што зрабілі, атрымліваем. Ён жа нічога благога не зрабіў" (Лк 23, 40–41). Пасля чаго звярнуўся да Збаўцы, просячы: "Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства" (Лк 23, 42). І атрымаў ад Месіі абяцанне, што ўжо сёння будзе з Ім у Раі. Гэта быў першы своеасаблівы акт кананізацыі, здзейснены Хрыстом.

Падчас дыялогу з Езусам на крыжы Дызма называе Яго па імені. Ва ўсіх Евангеллях гэта адзіны фрагмент, у якім нехта звяртаецца да Пана такім чынам. Ніводзін з суразмоўцаў Хрыста – будзь гэта хтосьці з Апосталаў ці вучняў, фарысеяў ці кніжнікаў, хворых, якім неабходна ацаленне, ці нават нячыстых духаў – не называе Яго непасрэдна па імені, а ўжывае пэўны тытул: Настаўнік, Раббі, Пане, Сыне Давіда. Гэта паказвае асаблівую блізасць Езуса і Злачынца, інтымныя адносіны, усталяваныя паміж церпячым Месіяй, высмейваным людзьмі ды салдатамі, і церпячым бандытам, якім пагарджалі на працягу ўсяго яго жыцця.

Акт веры Дызмы, учынены з вышыні крыжа, аказаў вялікае ўражанне на св. Аўгусціна. У сваіх разважаннях ён звяртаецца да Добрага Злачынца, пытаючыся: "Як ты распазнаў боскасць Месіі ў хвіліну, калі працаўнікі Хрыста апантана трыумфавалі і нават Апосталы не былі здольны распазнаць Яго аблічча ў агоніі? І адны, і другія вывучалі Пісанне, аднак не ўбачылі, што яно здзяйсняецца… Што ты зрабіў, каб зразумець гэта? Ці ж паміж разбойніцкімі вылазкамі ў цябе быў час на чытанне Кніг, якіх знаткі не маглі прачытаць?". Пасля чаго ад імя Дызмы дае выдатны адказ: "Не, я не вывучаў Пісанні. Не, не разважаў над прароцтвамі. Толькі Езус глянуў на мяне… і ў Яго позірку я зразумеў усё!" ("Добры Злачынец", Андрэ Дайно).

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ДЫЗМЫ?

Добры Злачынца – сімвал Божай міласэрнасці, а таксама ўзор дасканалага жалю за грахі. На яго прыкладзе бачым, што нават загубленае па чалавечых мерках жыццё можна скончыць найлепшым з магчымых спосабаў – просячы ў Езуса прабачэння і ласку збаўлення. Дызма паказвае, што для шчырага навяртання ніколі не позна. Аднак трэба памятаць, што не варта чакаць з гэтым да апошняга моманту, бо не ведаем, калі ён надыдзе.

### ЦІКАВА!

Некаторыя апокрыфы гавораць, што св. Дызма быў членам банды рабаўнікоў, якіх сустрэлі Юзаф з Марыяй і Дзіцяткам, калі ўцякалі з Егіпта. Ён, быццам, пераканаў астатніх злодзеяў пакінуць бедную сям'ю пры жыцці, не адбіраючы ў іх апошнія грошы.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства" (Лк 23, 42).

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Дызму 26 сакавіка.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Хрысціянскі вобраз як форма Божага Адкрыцця



**_У Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі экспануецца выстава пад назвай "Тайна хрысціянскага вобраза", на якой прадстаўлена багатая галерэя вiдарысаў святых заступнікаў._**

## ІКАНАПІС. КАНОН

Выставу адкрывае тэма Трыадзінага Бога. Яе прадаўжаюць матывы Святой Сям'і, Марыі і Езуса Хрыста, зямнога і ўваскрослага. Божы Сын прадстаўлены ў розных пастацях: як Журботны, Добры Пастыр, сярод Апосталаў, перад судом, падчас распяцця, з палаючым Сэрцам, у момант Пераісточання і інш.

Праваслаўныя і каталіцкія вобразы вельмі падобныя паміж сабой. Часам можам адзначыць нават адно і тое ж размяшчэнне персанажаў у прасторы. Але існуюць і пэўныя адрозненні. **_"У праваслаўнай мастацкай традыцыі існуе канон, якога прытрымліваюцца іканапісцы,_** – тлумачыць Ігар Ганчарук, старэйшы навуковы супрацоўнік музея. – **_Творы напісаны па строгіх правілах. Такім чынам, на праваслаўных іконах не паказваецца «зямное» неба, адсутнічае знешняя крыніца святла – яно выпраменьваецца з фігур, адзення і архітэктуры. Адрозным момантам праваслаўнага іканапісу з'яўляецца такама адваротная перспектыва. У ёй сумяшчаецца ў адно некалькі момантаў, якія адбываюцца ў розных месцах і ў розны час. Адлюстроўваецца не столькі сам прадмет, колькі яго ідэя. У каталіцкай традыцыі распаўсюджана прамая перспектыва"._**

*На выставе са збораў музея прадстаўлена звыш 80-ці твораў XVII – пачатку XX стагоддзяў. Экспануюцца абразы (на дошцы, палатне, а таксама літыя, або медныя) і скульптуры (драўляныя, керамічныя).*

Старэйшы навуковы супрацоўнік распавядае, што ў XII стагоддзі Каталіцкі Касцёл адыходзіць ад канонаў, агульнапрынятых у хрысціянскім мастацтве. З гэтага часу можам назіраць большую свабоду ў выбары сюжэтаў, антуражу. Мастакі часам ствараюць выявы святых па вобразе і падабенстве тых людзей, якіх бачылі ў свой час. У творах прасочваюцца індывідуальныя стылі і рысы.

У цэнтры экспазіцыі выставы – вобраз св. Міхала Арханёла. У праваслаўнай іканапіснай традыцыі ён звычайна прадстаўляецца з дзідай і зярцалам (сімвал прадбачання, перададзены Арханёлу Богам), у каталіцкай – у воінскіх даспехах або на кані. Гэтыя сімвалічныя атрыбуты на выявах сведчаць аб ролі Арханёла, які пакліканы ўзначаліць войска ў барацьбе са злом. Згодна хрысціянскім апокрыфам, св. Міхал Арханёл таксама скліча душы на Страшны Суд. Менавіта аб яго асаблівым заступніцтве часта просяць паміраючыя ў хвіліну смерці.

Трэба адзначыць, што культ св. Міхала Арханёла шырока распаўсюджаны на нашых землях. Арханёл з'яўляецца апекуном Касцёла ў Беларусі. Амаль у кожнай святыні маюцца алтары або абразы з яго выявай. У шматлікіх касцёлах дыяцэзіі пасля кожнай св. Імшы чытаецца малітва: "Святы Арханёле Міхале, беражы нас у змаганні, будзь нам абаронаю супраць спакусы і пастак злога духа...". Тым самым вернікі звяртаюцца да кіраўніка святога войска анёлаў, які стаіць на варце Божага закону.



Завяршаюць выставу вобразы Апосталаў, святых, у тым ліку мучанікаў.

## БЕЗ ЛІШНІХ ДЭТАЛЕЙ

**_"Галоўная мэта выставы – навучыць наведвальнікаў чытаць вобразы, дакладна так, як дзяцей вучаць чытаць па складах,_** – адзначае Ігар Ганчарук. – **_Рэлігійны абраз павінен разглядацца не як эстэтычны твор, а як асаблівая форма Божага Адкрыцця. У сакральным мастацтве выкарыстоўваецца спецыяльная выяўленчая мова, якая спасцігаецца праз разуменне цэлай сістэмы знакаў і сімвалаў, атрыбутаў"._**

Напрыклад, Айцоў Царквы часта адлюстроўваюць са скруткам або кнігай у руцэ (на знак таго, што яны неслі Божае слова), святых мучанікаў – з прыладамі іх катаванняў. Так св. Кацярына Александрыйская звычайна прадстаўляецца з мячом і колам, часам на яе галаве змяшчаецца карона. Як вядома з жыццяпісу, святая бараніла хрысціянскую веру, з-за чаго была прыгаворана да мучаніцкай смерці. Імператар загадаў раздрабіць цела дзяўчыны паміж коламі з шыпамі, але, згодна паданню, яе выратаваў анёл. Пасля Кацярына была абезгалоўлена. Св. Ян Непамук прадстаўляецца з вянком з зорак над галавой. З-за таго, што святар адмовіў каралю выдаць таямніцу споведзі каралевы, духоўнікам якой з'яўляўся, ён быў скінуты ў мяшку ў раку. Паводле сведчанняў відавочцаў, у тым месцы над вадой узнікла свячэнне ў выглядзе 5-ці зорак. Як зазначае старэйшы навуковы супрацоўнік, культ святых можа ўшаноўвацца і адлюстроўвацца ў розных краінах па-рознаму, але за большасцю персанажаў замацаваны ўласны набор сімвалаў.

На выставе таксама прадстаўлены творы беларускага мастацтва. Сярод іх – абраз св. Барбары, створаны народным майстрам гомельска-магілёўскай школы жывапісу пачатку XX стагоддзя. Пра гэта сведчаць прапорцыі фігуры (не звужаныя плечы), дэкор з буйных кветак. Ігар Ганчарук падкрэслівае, што народных майстроў часта "выдаюць" пальцы: добра не прамаляваны дэталі.

## МАЛІТВА ВАЧЫМА

З-за таго, што абразы і скульптуры ствараліся ананімна і часта невядома месца іх узнікнення, сузіральнік мімаволі абстрагуецца ад кантэксту і застаецца сам-насам з самім творам, а дакладней – з яго героем, душой. Падоўжаныя фігуры нібыта лунаюць. Цела выглядае бязважкім. Ідэя палягае на тым, каб адлюстраваць пераўтвораны, святы стан чалавека і пагрузіць у гэтую атмасферу сузіральніка. Таму тыя, хто глядзяць на творы хрысціянскага мастацтва, нібы моляцца вачыма. Гэта ачышчае знутры і настройвае на духоўны лад.



*Ангеліна Пакачайла*

**Гродзенскі дзяржаўны музей адкрыты штодзённа з 10.00 да 18.00 (каса – да 17.30). Выстава "Тайна хрысціянскага вобраза" экспануецца да мая бягучага года ўключна.**

# Літанія да св. Юзафа



**Кірые, элейсон,**
**Хрыстэ, элейсон, Кірые, элейсон.**
**Хрыстэ, пачуй нас,**
**Хрыстэ, выслухай нас.**

**Ойча з неба, Божа,**
*– змілуйся над намі.*
**Сыне, Адкупіцель свету, Божа,**
*– змілуйся над намі.*
**Духу Святы, Божа,**
*– змілуйся над намі.*
**Святая Тройца, адзіны Божа,**
*– змілуйся над намі.*

**Святая Марыя,**
**Святы Юзэфе,**
**Слаўны патомак Давіда,**
**Святло патрыярхаў,**
**Абраннік Багародзіцы,**
**Прачысты апякуне Панны,**
**Апякуне Сына Божага,**
**Клапатлівы абаронца Хрыста,**
**Галава Найсвяцейшай Сям'і,**
**Юзэфе найсправядлівейшы,**
**Юзэфе найчысцейшы,**
**Юзэфе наймудрэйшы,**
**Юзэфе наймужнейшы,**
**Юзэфе найпакорнейшы,**
**Юзэфе найвярнейшы,**
**Люстра цярплівасці,**
**Прыхільнік убоства,**
**Узор працуючых,**
**Аздоба сямейнага жыцця,**
**Апякуне паннаў,**
**Апора сем'яў,**
**Суцяшэнне няшчасных,**
**Надзея хворых,**
**Апякуне паміраючых,**
**Пострах злых духаў,**
**Апякуне Касцёла святога,**
*маліся за нас*

**Баранку Божы, які бярэш на сябе грахі свету,**
*– даруй нам, Пане.*
**Баранку Божы, які бярэш на сябе грахі свету,**
*– выслухай нас, Пане.*
**Баранку Божы, які бярэш на сябе грахі свету,**
*– змілуйся над намі.*

**С.:** *Устанавіў яго панам свайго дома.*
**Н.:** *І гаспадаром усіх сваіх уладанняў.*

**Молімся:** *Божа, Ты ў сваім цудоўным Провідзе ўчыніў святога Юзафа абраннікам Найсвяцейшай Маці Твайго Сына. Дай, просім, каб, ушаноўваючы яго як нашага апекуна на зямлі, мы былі годныя яго заступніцтва ў Небе. Праз Хрыста, Пана нашага.*

**Н.:** *Амэн.*

## Слова для жыцця

### Папа Францішак



*Касцёл, будучы таямніцай адзінства, злучаецца з ахвярай Хрыста і Яго заступніцтвам. У гэтым святле ў катакомбах Касцёл часта прадстаўляецца ў постаці жанчыны, якая моліцца з шырока распасцёртымі рукамі, у постаці "аранты". Касцёл моліцца... У адным з фрагментаў Дзеяў Апосталаў гаворыцца, што калі Пётр быў у вязніцы, "Касцёл рупліва маліўся за яго да Бога" (параўн.: Дз 12, 5). Касцёл, які моліцца... Таму калі мы ідзём на св. Імшу, то ідзём менавіта для гэтага: каб Касцёл маліўся. Як Хрыстос, які распасцёр свае рукі на крыжы, так і Касцёл – праз Яго, з Ім і ў Ім – прыносіць сябе ў ахвяру і заступаецца за ўсіх людзей. [...] У эўхарыстычнай малітве ніхто і нішто не забываецца, усё даходзіць да Бога. [...] І калі я ці мае родныя знаходзяцца ў патрэбе або хтосьці блізкі перайшоў з гэтага свету ў іншы, магу ўзгадаць аб гэтым пра сябе, у маўчанні, або напісаўшы імя патрабуючага, каб тое было далучана да малітвы.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 07.03.2018*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Чытаючы Евангелле, св. Казімір, безумоўна, не адзін раз разважаў над словамі Езуса: "Вы ведаеце, што тыя, хто лічацца князямі народаў, пануюць над імі і вяльможы іх уладараць над імі. Але не так няхай будзе між вамі: хто хоча быць найбольшым сярод вас, няхай будзе вам слугою. [...] Бо і Сын Чалавечы не на тое прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх" (Мк 10, 42-43. 45).*

*Св. Казімір спалучаў дбайную набожнасць і любоў да Бога з любоўю да бліжняга і служэннем іншаму чалавеку. Асаблівай любоўю і клопатам каралевіч ахінаў убогіх, хворых, вязняў, сірот, бежанцаў, пакрыўджаных лёсам людзей. Не толькі шчодра падтрымліваў іх міласцінай, але і знаходзіў час на размову, наведваў іх дома, у бальніцах і вязніцах, умеў суцешыць і падтрымаць духоўна. Гаварыў пра сябе: "Каралевіч не можа рабіць штосьці больш прыстойнае, чым праз убогіх служыць самому Хрысту".*

*Гісторыя ведае шмат каралёў з імем Казімір. Амаль кожны з іх атрымаў нейкае прозвішча, якое сведчыць аб пэўных заслугах: Казімір Аднавіцель, Казімір Справядлівы, Казімір Вялікі. Але найлепшы з тытулаў атрымаў каралевіч Казімір – Святы. Заслужыў яго, бо ў сваім жыцці на першае месца заўсёды ставіў Пана Бога і Яго навуку, а сам, будучы сынам караля, здолеў стаць слугой усіх.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці св. Казіміра ў Сапоцкіне, 04.03.2018*




◆ *Папа Францішак прыняў на прыватнай аўдыенцыі ў Ватыкане канцлера Аўстрыйскай Рэспублікі Себасцьяна Курца, першага пасля многіх гадоў практыкуючага каталіка на гэтай пасадзе. У размове з журналістамі палітык сцвердзіў, што ніколі не ўтойваў сваёй веры. Ён па магчымасці рэгулярна наведвае з сям'ёй касцёл, амаль штогод удзельнічае ў працэсіях Божага Цела ў роднай Вене. Маючы 31 год, Курц з'яўляецца самым маладым (і веруючым!) палітыкам у свеце.*

◆ *У Міністэрстве навукі і вышэйшай адукацыі ў Польшчы ў межах Нацыянальнай праграмы развіцця гуманістыкі завяршыўся конкурс "Uniwersalia 2.2". На рэалізацыю праектаў 4-ох навукоўцаў з тэалагічных аддзяленняў прызначана каля 900 тыс. зл. Найбольшая сума выдзелена на праект "Пераклад, крытычнае рэдагаванне і аналіз зместу Плоцкага пантыфікату XII ст." кс. праф. Генрыха Северыняка. Другую па памеры датацыю атрымаў праект кс. праф. Генрыха Петраса SI "Навуковае апрацаванне і выданне на польскай мове папскай і імператарскай карэспандэнцыі, што змяшчаецца ў «Collectio Avellana» (IV–VI ст.)". У конкурсе "Uniwersalia 2.2" сярод 84-ох пададзеных заявак ад навукоўцаў з гуманітарных колаў вылучана 11, якім прызначаны міністэрскія гранты.*

◆ *Рэшткі візантыйскай святыні, датаванай IV ст. н.э., знойдзены на дне возера Ізнік у паўночна-заходняй Турцыі. Менавіта ў гэтым месцы шмат стагоддзяў таму адбылося 2 Нікейскіх саборы: I у 325 годзе і II у 787 годзе. Руіны былі выяўлены дзякуючы аэрафотаздымку. У дадзены момант вядзецца размова, каб адкрыць тут падводны археалагічны музей і даць турыстам магчымасць убачыць руіны базілікі.*

◆ *Абраз Езуса, намаляваны Акіанай Крамарык ва ўзросце 8 гадоў, з'яўляецца адной з самых вядомых выяў Хрыста ў свеце. Менавіта гэты твор пад назвай "Князь міру" стаў натхненнем для стваральнікаў фільма "Нябёсы рэальныя". Дзяўчынка – мастак-самавук. Пачала маляваць, калі ёй было 4 гады. Са слоў Акіаны, яна мела бачанні, пры якіх атрымала ад Бога дар жывапісца. Сёння карціны 24-гадовай дзяўчыны высока цэняцца. Значную частку даходаў Акіана прызначае на дабрачыннасць.*

◆ *Ва Украіне затрыманы самазванец, які выдаваў сябе за ксяндза. У перыяд свят ён заходзіў у дамы да пенсіянераў, прапаноўваючы закалядаваць. Прадстаўляўся святаром, які прыехаў з Польшчы. Карыстаючыся даверам людзей, злачынец даведваўся, дзе знаходзяцца грашовыя сродкі, пасля чаго прасіў прыгатаваць яму вячэру. Калі гаспадары выходзілі з пакоя, самазванец іх абкрадаў. Як стала вядома, рабаўнік раней быў неаднаразова судзімы за карыслівыя злачынствы. Мужчына асуджаны да 2-ух гадоў і 8-мі месяцаў пазбаўлення волі.*

*credo.pro; deon.pl; niedziela.pl*



# НАЙВАЖНЕЙШЫ ТЫДЗЕНЬ У ГОДЗЕ

## *Як яго перажыць?*

● *працяг са с. 1*

Літургічныя цэлебрацыі Вялікага тыдня маюць сваю глыбокую красамоўнасць і логіку. На жаль, гэта часта застаецца па-за ўвагай, і мы з абавязку засяроджваемся толькі на эмацыйна-набожным удзеле ў набажэнствах без глыбокай уцягнутасці, што вынікае са свядомай веры і разумення літургіі. Таму давайце спынімся і дэтальна разгледзім галоўныя тэмы Вялікага тыдня.



### ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ

Вялікі тыдзень распачынаецца Пальмовай нядзеляй. Назва гэтага дня паходзіць ад уведзенага ў XI стагоддзі звычаю асвячэння пальмаў. У літургіі ўзгадваем урачысты ўезд Езуса ў Ерусалім, які папярэднічаў Яго мукам і смерці на крыжы. Пра гэтую падзею пішуць усё 4 Евангелісты, што пацвярджае яе вялікае значэнне. Натоўпы віталі Хрыста, слалі на дарогу плашчы і кідалі пальмовыя галінкі. Аднак мы не павінны даць сябе падмануць гэтым знешнім праяўленням энтузіязму і гучнаму радаснаму "Гасанна", бо тыя ж людзі праз некалькі дзён так жа гучна крычалі: "Укрыжуй Яго!", "Не маем караля, апроч цэзара" (параўн.: Ян 19, 15). Пра тое прыгадвае жудаснае апісанне мукі Пана, якое чытаем у гэты дзень падчас св. Імшы.

Такое кантрастнае суседства праслаўлення і нянавісці павінна пабудзіць да рэфлексіі над зменлівасцю і няверным чалавека, а значыць, кожнага з нас. Так лёгка зло атрымлівае перамогу над дабром, так хутка захапленне ператвараецца ў пагарду, так раптоўна нясталая вера паддаецца ўплыву натоўпу.



### ВЯЛІКІ ПАНЯДЗЕЛАК, ВЯЛІКІ АЎТОРАК І ВЯЛІКАЯ СЕРАДА

У **Вялікі панядзелак** успамінаем, як, ідучы ў Ерусалім, Хрыстос загадаў смакоўніцы засохнуць, бо, насуперак чаканням, не знайшоў на ёй пладоў, толькі лісце (параўн.: Мц 21, 18–19; Мк 11, 12–14). Калі ўвайшоў у святыню і ўбачыў там купцоў з таварам і быдлам, выгнаў іх адтуль (параўн.: Мц 21, 12–13; Мк 11, 15–19; Лк 19, 45–48).

У **Вялікі аўторак** узгадваем, як Пан Езус вёў жорсткую палеміку з габрэйскімі старэйшынамі, якую скончыў шматразовым "гора", кінутым сваім зацятым ворагам (параўн.: Мц 21, 20 – 23, 39; Мк 11, 27–32. 41; Лк 20, 9 – 21, 1). У сваёй знакамітай эсхаталагічнай прамове Ён гаворыць пра абсалютнае знішчэнне Ерусаліма і пра канец свету, які завершыць гісторыю чалавецтва (параўн.: Мц 24, 1–41; Мк 13, 1–33; Лк 21, 5–34). Прадказвае таксама свой паўторны прыход на зямлю ў хвале (параўн.: Мц 25, 31–46). У прыпавесцях пра хітрага слугу, мудрых і неразумных панняў і пра таленты Збаўца заклікае чалавека да развàжлівасці (параўн.: Мц 24, 42–55. 30; Мк 13, 33–37; Лк 21, 34–36).

**Вялікая серада** непасрэдным чынам звязана з падзеямі Вялікага чацвярга і Вялікай пятніцы. Сінедрыён падчас сакрэтнай нарады вырашае любой цаной забіць Езуса. Іуда прапануе Вялікай жыдоўскай радзе сваю дапамогу за сярэбранікі, абяцае сачыць за Хрыстом і калі Божы Сын будзе адзін, паведаміць аб гэтым Сінедрыёну (параўн.: Мц 26, 1–16; Мк 14, 1–11; Лк 22, 1–6), каб маглі Яго схапіць.

Калі гаварыць пра літургію, Вялікі панядзелак, Вялікі аўторак і Вялікая серада нічым не вылучаюцца. Гэтыя дні асабліва прысвечаны сакраманту паяднання. Таму варта скіравацца да канфесіянала, каб ачысціць сваё сэрца. Не трэба адкладваць споведзь на апошнюю хвіліну. Прыступаючы да сакраманту пакаяння ў дні Пасхальнага Трыдуума, губляем шанс на глыбокае перажыванне гэтага выключнага часу. Стоячы ў доўгіх чэргах, цяжка засяродзіцца на літургіі ды ў поўнай меры выкарыстаць ласкі, якія можна атрымаць у гэты асаблівы перыяд.



### ВЯЛІКІ ЧАЦВЕР

Гэта пачатак 3-ох найсвяцейшых дзён касцёльнага года, памятка Апошняй Вячэры і адначасова свята Эўхарыстыі і святароў. На Апошняй Вячэры Хрыстос устанавіў сакрамант свайго Цела і Крыві, а таксама сакрамант святарства. Адразу з Вячэрніка Ён з Апосталамі накіраваўся на Алійную гару, у Гефсіманію, каб маліцца. У адзіноце адчуваў жудасны страх, які праявіўся ў крывавым поце. Аднак гэта быў страх не столькі перад смерцю, колькі перад людской грэшнасцю і абыякавасцю. Адразу пасля гэтага, выданы Іудам, быў укінуты ў вязніцу.

На ўспамін аб гэтай падзеі літургія Вялікага чацвярга заканчваецца працэсіяй, падчас якой Найсвяцейшы Сакрамант пераносіцца ў т. зв. Цямніцу. Яна пустая і цёмная, што павінна прыгадаць нам аб ночы, падчас якой пакінуты ўсімі Езус чакаў уласнай смерці.



### ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА

У гэты дзень насуперак закону ў гучным несправядлівым працэсе перад Вялікай жыдоўскай радай Хрыстос быў асуджаны на смерць за блюзнерства. Горкім сведчаннем мукі Езуса з'яўляецца т. зв. Турынская плашчаніца – палатно з таямнічым абліччам укрыжаванага Чалавека. Гісторыя мукі адлюстравана там у выразных крывавых слядах.

У Вялікую пятніцу не адпраўляюцца св. Імшы. Алтары непакрытыя, маўчаць арганы і званы. Літургія запрашае нас да разважання апісання Мукі Пана, а пазней – да ўшанавання крыжа. Узгадваючы цярпенні Хрыста, мы павінны памятаць, што яны былі для Езуса не нечаканасцю, але дабравольным выкананнем збаўчых планаў Бога. Смерць Збаўцы – гэта канчатковая перамога, апрамененая бляскам Уваскрасення. Яна падкрэсліае, хутчэй, хвалу збаўлення праз крыж, чым прыніжэнне праз муку.

Літургія распачынаецца адарацыяй у маўчанні. Цэлебранты кладуцца перад алтаром ніцма. Затым у засяроджанні ўслухоўваемся ў чытанне фрагмента Евангелля, які апісвае смерць Хрыста, прадстаўляем Богу патрэбы ўсяго чалавецтва ў пашыранай паўсюднай малітве, што мае старажытныя карані. Пасля ўрачыстага ўнясення крыжа, яго трохразовай акламацыі, адсланення і адарацыі праз цалаванне наступае абрад св. Камуніі. На заканчэнне ў працэсіі з калатушкамі і спевам Найсвяцейшы Сакрамант у манстранцыі, прыкрытай белым вэлюмам, пераносіцца да алтара Гробу Пана, перад якім вернікі трываюць у чуванні і малітве. Хрыстос, Сын Божы, Збаўца свету, спачывае мёртвы ў магіле. Выстаўлены для далейшай адарацыі і цалавання крыж з'яўляецца маўклівым знакам бязмежнай любові да самага канца.

## ВЯЛІКІ ТЫДЗЕНЬ У ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

***Чаму Вялікі тыдзень называецца "вялікім"?***

*Паняцце "вялікі" падкрэслівае значэнне гэтага тыдня для ўсяго касцёльнага года, таму што менавіта падчас яго літургічна здзяйсняюцца збаўчыя падзеі.*

***Што сімвалізуе абмыванне ног 12-ці апосталам?***

*Мыццё ног з'яўляецца знакам пакорнай службы і падрыхтаванасці (таксама ў маральным плане) да служэння па прыкладзе Хрыста, які прыйшоў, "каб служыць". Лічба 12 адсылае да 12-ці пакаленняў Ізраэля і 12-ці Апосталаў, сімвалізуючы колькасць паўнаты ў суадносінах колькасці і якасці (мужчыны з'яўляюцца тут прадстаўнікамі цэлай супольнасці).*

***Чаму ў Вялікі чацвер з алтара здымаюцца абрус і аздобы?***

*Алтар "абнажаецца" на знак набліжэння балесных падзей, звязаных з мукай і смерцю Хрыста. Гэты абрад прыгадвае, што перад укрыжаваннем Езуса распранулі.*

***Чаму ў Вялікую пятніцу ў Касцёле не адпраўляюцца св. Імшы?***

*Езус у гэты дзень здзейсніў крывавую ахвяру на крыжы, таму Касцёл лічыць немэтазгодным складаць таксама некрывавую ахвяру – св. Імшу.*

***Чаму ў Вялікую пятніцу ў касцёле так ціха – не ўжываюцца ні званочкі, ні арган?***

*Дзень, які называем Вялікай пятніцай, у Ерусаліме быў днём перадсвяточнага шуму, днём падрыхтоўкі да шабату. Для нас ён з'яўляецца часам засяроджання і маўчання. Нічога не павінна перашкаджаць роздуму над смерцю Езуса. Захоўваем цішыню, каб падкрэсліць настрой і сур'ёзнасць характару гэтага дня.*

***Навошта манстранцыю пасля перанясення ў Гроб Пана накрываюць белым вэлюмам?***

*Белы вэлюм, які прыкрывае манстранцыю з Найсвяцейшым Сакрамантам, сімвалізуе плашчаніцу, у якую загарнулі цела Хрыста пасля Яго смерці.*

***Чаму гаворым, што Пан Езус быў у магіле 3 дні, калі на самой справе гэта былі няпоўныя 2-ое сутак?***

*Адказ крыецца ў яўрэйскім разуменні дня, які распачынаўся ад моманту наступлення змроку папярэдняга дня да змроку бягучага. Таму ад падзей пятніцы да нядзелі ўключна атрымліваецца 3 дні (пятніца, субота, нядзеля). Акрамя таго, выкарыстоўвацца сімволіка тройкі, якую прарокі прыводзілі як лічбу поўні, структуры збаўленага свету (неба, зямля і падзямелле) ці таксама самаго Бога. Так, напрыклад, Іона 3 дні знаходзіўся ў чэраве рыбы, Езус мог адбудаваць святыню Божую цягам 3-ох дзён.*

***Навошта ў ноч Пасхальнай вігіліі перад касцёламі распальваюць вогнішчы?***

*Хрыстос стаў вуглавым каменем, з якога выйшла святло свету, асвячаючы ўсю зямлю. Святар бласлаўляе агонь як сімвал Збаўцы, які з цемры магілы выйшаў у нязвыклым бляску. Вогнішча рыхтуецца па-за святыняй у адпаведным месцы.*

***Навошта падчас цырымоніі асвячэння агню святар убівае ў пасхальную свечку 5 цвікоў?***

*Пасхальная свечка сімвалізуе ўваскрослага Хрыста, які памёр на крыжы. Устаўленыя ў яе цвікі – сімвал ран Езуса: Яго прабітыя рукі, ногі і бок. Лічба 5 уключае ў сябе таксама 4 бакі свету, таму цвікі размяшчаюць сіметрычна: усход – захад, поўнач – поўдзень, – а таксама цэнтр свету, якім з'яўляецца Езус Хрыстус як Альфа і Амега.*



# ВЯЛІКАЯ СУБОТА

Дзень пустаты і маўчання. На працягу ўсёй Вялікай суботы не цэлебруюцца св. Імшы. У гэты дзень адпраўляецца толькі Літургія гадзін. Вернікі наведваюць Гроб Пана, каб адараваць яго ў маўчанні.

Згодна з традыцыяй, у святыню для бласлаўлення прыносяць стравы на велікодны стол. Гэта павінна прыгадаць нам, што ўсе сродкі для жыцця – як цялеснага, так і духоўнага – маем дзякуючы Уваскросламу.

## ПАСХАЛЬНАЯ ВІГІЛІЯ І НЯДЗЕЛЯ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА

Паводле старажытнага звычаю, святкаванне ўрачыстасці распачыналася напярэдадні, у т. зв. вігілію. І хоць літургічныя абрады адпраўляюцца суботнім вечарам, гэты час адносіцца ўжо да Велікоднай нядзелі.

Пасля 2-ух дзён цішыні і пакаяння літургічныя абрады пашыраныя, урачыстыя і незвычайна багатыя на сімвалы і змест. Гэтай ноччу збаўчую таямніцу пераходу ад смерці да жыцця праз Уваскрасенне Хрыста нам набліжаюць 4 сімвалы: святло, Божае слова, вада хросту і свята жыцця. А праяўляюць яе 2 сакраманты: хрост і Эўхарыстыя.

Значэнне святла паўней бачыцца ў параўнанні з цемрай. Таму літургія павінна распачацца пасля заходу сонца, калі настане змрок. Асвечаны агонь з кастра з'яўляецца крыніцай святла для пасхала, ад якога вернікі запальваюць свечкі. Так паступова цемра перамагаецца святлом Хрыста. Сімволіку святла, пасхальнай свечкі і Вялікай Ночы тлумачыць спеў старажытнага Пасхальнага заклiку.

Літургія Божага слова, якая складаецца з некалькіх чытанняў, прыгадвае нам пра найважнейшыя падзеі ў гісторыі збаўлення, увенчаныя уваскрасеннем Езуса. На спеў гімна "Хвала на вышынях" пачынаюць званіць у званы. Радаснае "Алелюя" абвяшчае нам, што Хрыстос уваскрос.

Літургія хрышчэння з першых стагоддзяў Касцёла найбольш урачыста цэлебравалася менавіта падчас Велікодных свят. Першы сакрамант – гэта сімвалічнае акунанне ў смерць Збаўцы і ўваскрасенне чалавека да новага жыцця ў Хрысце. Урачыстае асвячэнне вады для хрышчэння, літанія да Усіх Святых і аднаўленне хросных абяцанняў павінны яшчэ больш наблізіць нас да Езуса – Крыніцы Жыцця.

Эўхарыстычная літургія адсылае вернікаў непасрэдна да старазапаветнай пасхальнай вячэры ў ноч напярэдадні вызвалення з егіпецкай няволі. Кроў баранка абараніла ізраільцян ад смерці першародных, а спажытая ў спешцы пасха стала напамінам аб вызваленні з няволі і аб запавеце з Богам. Баранак Новага Запавету, Хрыстос, які пераходзіць ад смерці да жыцця, вызваляе нас усіх з няволі граху і смерці. Эўхарыстыя з'яўляецца вечнай памяткай і дэманстрацыяй Яго ахвяры. Прымаючы ў ёй удзел, прыступаючы да св. Камуніі, атрымліваем дар жыцця і вольнасці Божых дзяцей. Мы адкуплены!

Рэзурэкцыйная працэсія з запаленымі свечкамі, пасхалам, фігурай Збаўцы, харугвамі, суправаджаемая радасным спевам і звонам усіх званоў, з'яўляецца ўрачыстым і публічным абвяшчэннем свету ісціны, што Езус уваскрос, што пячаць, стража і камень, падман фарысееў, прапаганда атэістаў, варожасць свету, якія праследуе сведкаў Уваскрасення, нічога не вартыя. Хрыстос жыве! І мы пакліканы сведчыць пра гэта сваёй радасцю, малітвай, спевам і таксама ўсім жыццём.

# ВАРТА ПАМЯТАЦЬ!

***• Не трэба адкладваць падрыхтоўку да святкавання на апошнюю хвіліну. Варта загадзя зрабіць пакупкі, заняцца гатаваннем і ўборкай. Навошта? Гэта неабходна, каб у перыяд Пасхальнага Трыдуума мець час на засяроджанае перажыванне містэрыі Хрыста, магчы паглыбіцца ў святкаванне. Вялікдзень не павінен атаясамлівацца ў чалавека з навядзеннем парадку, стомленасцю і мітуснёй.***

***• Важным аспектам добрага перажывання пасхальных свят з'яўляецца іх перажыванне ў супольнасці. Таму па меры магчымасцей важна ўдзельнічаць у літургіі Пасхальнага Трыдуума ўсёй сям'ёй, разам маліцца дома і яшчэ больш старанна ў гэтыя дні прымаць удзел у жыцці парафіі.***

***• Вялікі тыдзень павінен "вырываць" нас са штодзённай руціны, якая закранае таксама досвед веры. У гэты асаблівы перыяд належыць сканцэнтравацца на Хрысце і Яго збаўчых муках. Варта суцішыцца, духоўна настроіцца на падзеі, апісаныя Евангелістамі. Глыбока зачарпнуць са скарбу, якім з'яўляюцца смерць, мука і ўваскрасенне Бога-Чалавека.***

***• Дзякуючы засяроджанаму перажыванню Вялікага тыдня, паглыбленню ў таямніцу Божай любові, маем шанс на сапраўднае аднаўленне нашага жыцця, нашай веры, а таксама на навяртанне да Бога. Вялікі чацвер, Вялікая пятніца, Вялікая субота і Пасхальная нядзеля асабліва багатыя літургічнымі абрадамі. Гэта цудоўны дар Касцёла, які можа ўзбагаціць нас, набліжаючы да Хрыста.***

# ПРАДСТАЎЛЯЦЬ ХРЫСТА І ВЫКОНВАЦЬ ЯГО ЗАДАННЕ

***У Вялікі чацвер Езус устанавіў сакрамант святарства. У гэты дзень шматлікія вернікі скіроўваюць свае думкі і пажаданні да ўсіх святароў, дзякуюць ім за прамоўленае Божае слова, за цэлебрацыю Эўхарыстыі, а таксама за ахвяру іх жыцця, складзеную на карысць Богу і людзям.***



Кс. Павел Урбан

***Ролю святара нельга вымераць фінансавымі паказчыкамі, адміністрацыйнымі, будаўнічымі або навуковымі дасягненнямі, нават годнасцямі і функцыямі, якія ён выконвае ў Касцёле. Адпаведнай мерай святарства з'яўляецца само служэнне. Святар нясе паслугу людзям у Хрысце, праз Хрыста і з Хрыстом. Ён – служыцель збаўлення, шчасця і свабоды дзяцей Божых. Чаму быць святаром – не прафесія?***

*Ёсць прафесіі – напрыклад, настаўнік, урач – выкананне абавязкаў якіх было б складаным без ласкі паклікання. Аднак атрымаўшы адпаведныя навыкі ў падобнай прафесіі, такая праца можа стаць магчымай і часта нават дастакова эфектыўнай, але акажацца менш плённай і не будзе прыносіць задавальнення. Са святарствам справа выглядае абсалютна інакш. Эфектыўнасць выканання святарскай паслугі залежыць не ад тэалагічнай, літургічнай, педагагічнай ці якойнебудзь іншай кваліфікацыі, а ад спецыяльнага Божага намашчэння – сакраманту, дзякуючы якому здзяйсненне літургічных чынаў дасягае свайго выніку – праяўлення дзейнасці Усемагутнага ў асобе ці супольнасці. Абавязковасць такога намашчэння Бог аб'яўляе яшчэ ў старазапаветныя часы, выбіраючы калена Левія для ролі святароў.*

*У часы Новага Запавету святар з'яўляецца відавочным знакам прысутнасці Хрыста сярод свайго люду. Таму быццё гэтым знакам не можа абмяжоўвацца ні часам, ні тэрыторыяй, ні агулам выконваемых абавязкаў, ні інтэлектуальнай кваліфікацыяй. У кожным часе і месцы, у кожнай супольнасці, у адносінах да кожнага чалавека, незалежна ад акалічнасцей, святар прадстаўляе Езуса, з'яўляецца праяўленнем Яго ахвярнай любові. Папа Францішак лічыць святарства хутчэй спецыфічным стылем жыцця намашчанага чалавека, чым прафесіяй, абцяжаранай пэўнымі абавязкамі. Менавіта гэтым асаблівым намашчэннем і спосабам жыцця святар адрозніваецца ад іншых людзей у свеце, якія працуюць як згодна з пакліканнем, так і з-за абавязку.*



Кс. Алег Пятрашка

***Сёння ксёндз, ідучы на катэхезу, на душпастырскую сустрэчу ці выконваючы якую-небудзь іншую паслугу, павенен усведамляць, кім ён з'яўляецца і што можа прапанаваць свету. Якой павінна быць святарская духоўнасць у сучасных умовах?***

*Напэўна, каб здзяйсняць сваю місію, святар павінен мець што ахвяраваць чалавеку. На мой погляд, гэта, перш за ўсё, жаданне сустрэчы з ім, шчырая зацікаўленасць і шчыры намер дзяліцца тым, чым жывеш – Езусам. Сёння як святары, так і кансэкраваныя і свецкія асобы перажываюць моцную спакусу духоўнага раздваення, т. зв. "духоўную шызафрэнію". Калі вучым, можам патрабаваць ад іншага чалавека таго, чым самі не жывём. Раней ці пазней гэта прывядзе да абыякавасці. Таму кожная духоўная асоба, у тым ліку і святар, мае абавязак, закладзены Богам у дары паклікання, сведчыць аб любові Усемагутнага, прагнуць глядзець на чалавека вачамі Езуса, быць прадаўжэннем Яго вуснаў, рук. Можа, такія словы гучаць як змест прыгожага пажадання, трохі ўтапічнага, але духоўнасць святара – гэта жыццё на максімуме, а інакш – балючае падзенне. Ён павінен ісці на катэхезу, любіць дзяцей, прагнуць прысвяціць ім час і самога сябе, хоць гэта часам "крыжуе" яго планы. Дзяліцца Божымі праўдамі так, каб у ім бачылі не толькі тэарэтыка, але таксама практыка.*

*Вельмі балюча, калі тыя, хто павінен дапамагчы адбыцца сустрэчы з Богам, самі на самой справе не перажылі такой сустрэчы. Гэта як абыякавасць бацькоў адносна свайго дзіцяці, якое будзе асуджана на шмат цяжкасцей і пакут, бо не вынесла з дому таго, што зрабіла б яго дарослым. Сведчанне папы Францішка, які з вялікай эмпатыяй падыходзіць да кожнага чалавека, здаецца, сёння павінна быць прыкладам для кожнага душпастыра. Але гэта магчыма толькі тады, калі святар моцна з'яднаны са сваім Настаўнікам і Збаўцам.*



Кс. Валерый Спірыдон

***У Вялікі чацвер вернікі выражаюць сваю ўдзячнасць усім святарам, якія аддана клапоцяцца пра іх. А якія ёсць нагоды, каб святар дзякаваў людзям? Чаму ён можа навучыцца ў простага чалавека?***

*У святара, як і ў кожнага іншага чалавека, ёсць цяжкія моманты ў жыцці. У такія перыяды дапамагае малітва і святыя сакраманты. Яшчэ адна з крыніц, якая дае жыццёвыя сілы – людзі. Многія вернікі з'яўляюцца для мяне прыкладам: яны захоўваюць аптымізм і дзеляцца ім з іншымі ў цяжкія хвіліны. Гэта тыя людзі, якія сціскаюць у руках ружанец, калі хаваюць сваіх дзяцей; якія не губляюць культуры, павагі і маральных каштоўнасцей, нават калі побач хамства; якія шмат дасягнулі ў сацыяльнай сферы, але не саромеюцца стаць на калені перад Усявышнім. Дзякую Богу, што такія асобы сустрэліся на маім шляху. Гледзячы на іх, я адчуваю смак жыцця.*

*Матэрыялы паласы падрыхтавала Кінга Красіцкая*




**CatholicNews.by**

**"Бог малады"**

***Пад такой назвай будзе прэзентавана кніга ў фармаце інтэрв'ю з папам Францішкам. У ёй Святы Айцец адказвае на пытанні журналіста і пісьменніка Томаса Леанчыні – аўтара інтэрв'ю з дзеячамі палітыкі, эканомікі і кіно.***

*Прэзентацыя выдання прымеркавана да Сусветнага дня моладзі, які папярэднічае кастрычніцкай асамблеі Сінода Біскупаў, прысвечанай тэме моладзі. Як паведамляе выдавец, Пантыфік звяртаецца ў кнізе да маладых людзей ва ўсім свеце, якія належаць або не належаць да Касцёла, уступаючы з імі ў "адважны, глыбокі і запамінальны" дыялог. У гутарках з Леанчыні Папа "з сілай і запалам" апісвае найбольш важныя праблемы сучаснасці, паказвае на ролю маладых герояў у агульнай гісторыі.*

*Гэта не першая кніга-інтэрв'ю Святога Айца Францішка. У студзені 2016 года свет пабачыла апублікаваная размова Папы з журналістам-ватыканістам Андрэа Тарніелі пад назвай "Імя Бога – Міласэрнасць".*




**Папа Францішак наведае краіны Балтыі**

***Сваё падарожжа Пантыфік распачне ў верасні з Літвы.***

*Спярша Святы Айцец сустрэнецца з моладдзю ў Вільнюсе, а затым цэлебруе св. Імшу ў Каўнасе.*

*У 2-ой частцы візіту Пантыфік наведае Рыгу і Аглону (Латвія), а таксама Талін (Эстонія).*




**Біблія перакладзена на 674 мовы свету**

***Інакш 5,4 мільярдаў чалавек маюць доступ да Святога Пісання Старога і Новага Запаветаў на сваёй роднай мове.***

*Гэта стала вядома са штогадовай справаздачы Сусветнага саюзу Біблійных таварыстваў. На працягу мінулых 12-ці месяцаў колькасць перакладаў павялічылася на 26. Новы Запавет даступны на 1515 мовах. Як мінімум адна з кніг Бібліі перакладзена ўжо на 3324 жывыя мовы. Таксама выдадзена 26 новых ці папраўленых перакладаў Святога Пісання на тых мовах, на якіх ужо раней існавалі пераклады. Так адбываецца, таму што мовы развіваюцца, з'яўляюцца новыя панацці, а пераклады, якія былі да гэтага часу, старэюць.*

*Сёння Біблійныя таварыствы працуюць над яшчэ больш за 400 праектамі перакладаў у свеце.*




**Ці можа чалавека надзяліць звышнатуральнымі здольнасцямі не Бог, а злы?**

*Чалавек не можа самастойна ўзгадаваць у сабе звышнатуральныя здольнасці, а значыцца, нехта яго імі надзяліў. І цалкам магчыма, што жанчына, якая моліцца перад абразамі, абяцаючы вылячыць ад усіх немачаў, атрымала здольнасці зусім не ад Бога.*

*Калі нам даводзіцца назіраць за пэўнымі надзвычайнымі рэчамі, якія здзяйсняе чалавек, трэба, перш за ўсё, спытаць сябе: з дапамогай якой сілы ён гэта робіць? Каб адказаць на дадзенае пытанне, неабходна ведаць асобу, яе жыццё і адносіны з Богам. Староннi чалавек можа гэтага не ведаць. Лепш за ўсё такія рэчы распазнаюць святары, якія добра знаёмы са сваімі парафіянамі. Таму я не раю даваряць "бабкам", якія "лечаць", адгаворваючы нават знаёмыя нам малітвы і пры гэтым здзяйсняючы які-небудзь рытуал. У народзе часта кажуць: "Лечыць ад рожы, і гэта дар Божы". Моцна сумняваюся, што Бог дае такую "вузкую спецыялізацыю", і лічу, што ў падобных выпадках гаворым пра дар ад д'ябла. Нельга забывацца пра тое, што Езус прарочыў прыход ілжэпрарокаў і антыхрыста, якія будуць зводзіць людзей цудамі.*

*У той самы час існуюць сітуацыі, калі Усявышні надзяляе чалавека надзвычайнымі ласкамі. Біблія называе іх харызмамі. Як правіла, падобныя дары атрымлівае асоба, якая па прыкладзе першых хрысціян або Апосталаў займаецца евангелізацыяй. Але нават у гэтых выпадках нельга дакладна сказаць, што чалавек мае Божы дар аздараўлення. Госпад па вядомай толькі Яму прычыне часам жадае праявіць праз свайго паслядоўніка той ці іншы цуд.*

*А. Аляксандр Жарнасек МІС*
***Паводле grodnensis.by***

# Святар, які любіў жыццё і людзей

***Ужо амаль год мінуў, як па ўзнагароду да Пана адышоў светлай памяці кс. Леанід Нясцюк. Адкрыты, добры чалавек, верны пакліканню душпастыр. Сваімі ўспамінамі пра былога пробашча дзеляцца вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах (дэканат Астравец).***



**Кс. Леанід Нясцюк нарадзіўся 24 мая 1955 года. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў з рук біскупа Людвікаса Павілоніса 22 мая 1982 года ў Каўнасе (Літва). З 1996 года служыў пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах. Памёр 24 сакавіка 2017 года. Цела спачылага святара пахавана каля мясцовага касцёла.**

Кс. Леанід Нясцюк служыў пробашчам у гервяцкай парафіі з 1996 года. За гэты час дзякуючы яго намаганням была цалкам аднаўлена мясцовая святыня: перакрыты дах, пакладзена плітка, пафарбаваны фасад. Па задуме святара на прыкасцёльнай тэрыторыі спілаваны таполі, выкарчавана карэнне, завезена зямля. Вакол святыні высаджаны парк вечназялёных хмызнякоў.

*"Ні адна расліна не загінула,* – распавядае Віктар Ёдка, які дапамагаў кс. Леаніду ствараць прыгажосць каля касцёла. Ён і сёння даглядае за паркам. – ***А пачалося ўсё з таго, што аднойчы ляснік з Іўеўскага раёна, дзе кс. Леанід служыў пробашчам на працягу 14-ці гадоў, паказаў, як правільна высаджваць дрэвы. Той зацікавіўся. Потым звяртаўся за парадамі да кс. Юозаса Булькі, які на той час акультурвыў плошчу вакол касцёла ў Мосары. Крок за крокам – і зараз маем такі шыкоўны від ля святыні!".***


Велічны касцёл у Гервятах, вядомы ў Беларусі і за мяжой

З-за адметнай прыгажосці госці мястэчка празвалі Гервяты "жамчужынай Беларусі", параўноўваючы іх з маленькай Швейцарыяй ці французскім Версалем, а непасрэдна сам касцёл – "беларускім Нотр-Дамам". ***"Кс. Леанід праславіў Гервяты на ўвесь свет!*** – гаворыць Віталій Сыс. – ***Ён быў працалюбівы, творчы, крэатыўны. Імкнуўся паказаць людзям гармонію паміж знешняй і ўнутранай прыгажосцю, якая павінна быць у чалавеку. Заўсёды знаходзіў час, каб паразмаўляць з парафіянамі. Адрозніваўся ўважлівасцю, чуласцю. Яго шчыра цікавіла, чым людзі жывуць".***

Неадназова святара заўважалі ў акружэнні незнаёмых людзей, гасцей мястэчка. Ён лёгка знаходзіў агульную мову з чалавекам, быў адкрыты, ветлівы і добразычлівы. З задавальненнем паказваў мясцовую святыню, распавядаў пра яе гісторыю.

***"Кожны святар валодае пэўным дарам,*** – адзначае Ганна Стэфановіч. – ***Мне здаецца, кс. Леанід меў дар бачыць душу чалавека. Ён умеў выцягнуць на паверхню самае лепшае, што ёсць у душы. Часта нехта мог папрасту і не ведаць гэта пра сябе! Вельмі любіў людзей... Жыў перакананнем: дрэнных людзей няма. Быў упэўнены, што чалавека робяць злым нейкія цяжкія абставіны, непрабачаныя крыўды. Заўсёды знаходзіў у асобе нешта добрае, светлае. Людзі яго таксама вельмі любілі".***

Як адзначаюць парафіяне, кс. Леанід меў добрае пачуццё гумару, часта жартаваў. Запомніўся пазітыўным чалавекам: яго не бачылі без настрою, панурым. Ніколі не скардзіўся на жыццё, хоць цяжка цярпеў па стане здароўя. Дарэчы, пра гэта ніхто нават і не здагадваўся: усе цяжкасці святар маўкліва складаў на Божы алтар. Вернікі моляцца за яго душу і спадзяюцца, што былы пробашч ужо цешыцца ўзнагародай у Небе.

**Памінальная св. Імша з нагоды першай гадавіны смерці кс. Леаніда Нясцюка адбудзецца ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах 24 сакавіка ў 12.00. Яе ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.**

*Ангеліна Пакачайла*




***Бег часу няўмольны. Здаецца, што толькі ўчора Божы Провід паслаў да нас пробашчам кс. д-ра Аляксандра Севасцьяновіча, а ўжо мінула амаль 10 гадоў. Увесь гэты час мы разам. Разам у малітве, разам і ў працы, разам у радасці і скрусе.***

*Дзень за днём, год за годам наш касцёл змяняецца. Змяняемся і мы, людзі, слухаючы навуку пробашча і ўсё больш і лепш сузіраючы сябе вачамі Бога.*

*У мінулым годзе дзякуючы кс. Аляксандру Севасцьяновічу ў нашай парафіі адбылося нямала асаблівых і значных падзей. Гэта перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай у рамках святкавання 100-годдзя аб'яўленняў Марыі ў Партугаліі. Мясцовыя вернікі з вялікай любоўю рыхтаваліся да той сустрэчы. Усё было распісана па хвілінах, каб Маці Божая не сумавала ў нашым касцёле. Сустрэча, малітва на ружанцы, св. Імша, начное чуванне... Кожны, хто хацеў, мог наблізіцца да Марыі, адчуць Яе клопат і ўмацаваць сваю веру. Змяніцца і старацца ісці далей па жыцці так, як Яна, якая шмат ведала, але мала гаварыла, была пакорная і паслухмяная Богу.*

*Павучальнай і запамінальнай падзеяй для нас стаў адпуст з двухдзённымі рэкалекцыямі, якія праводзіў кс. Віктар Ханько з парафіі Масты. Напрыканцы вернікаў чакаў сюрпрыз. Як і кожны год, напярэдадні калядных свят з віншаваннямі і падарункамі да нас завітаў св. Мікалай, якога з нецярплівасцю чакалі дзеці (і каталікі, і праваслаўныя). Хлопчыкі і дзяўчынкі сустракалі госця вершамі і песнямі.*

*На Божае Нараджэнне нашыя дзеці пад кіраўніцтвам катэхеткі Марыны Ліннік прадставілі калядную пастаноўку, як усё адбывалася 2000 гадоў таму. Ужо стала традыцыяй кожны Новы год – 31 снежня ў 24.00 – пачынаць у малітве на св. Імшы. Не быў выключэннем і 2018 год, на распачацце якога мы папрасілі ў Пана прабачэння за правіны, здзейсненыя ў пражытым часе, а таксама маліліся аб Божым бласлаўленні на далейшыя дні. Што можа быць выдатней?*

***Кс. Аляксандр, Вы – чалавек радасці, Вы нясеце людзям надзею. Няхай любоў Усемагутнага і мудрасць заўсёды прабываюць у сэрцы, а мы і надалей будзем браць з Вас прыклад і імкнуцца таксама быць сведкамі Божай любові.***

*Марына Езерская ад імя парафіян і гасцей касцёла св. Мікалая ў Міры*

***Наш касцёл мае тытул Найсвяцейшай Тройцы. На працягу многіх гадоў святыня была закрыта, але дзякуючы Богу і людзям з 90-ых гадоў мінулага стагоддзя мы зноў можам маліцца ў касцёле. У парафію пачалі прыязджаць місіянеры ксяндзы палатыны. Мясцовыя вернікі ад шчырага сэрца ўдзячны святарам з Польшчы, якія прыклалі шмат намаганняў для аднаўлення рэлігійнага жыцця ў парафіі. Асабліва дзякуем кс. Анджэю Вітэку, які на працягу доўгага часу працаваў у нас.***

*У 2010 годзе ў парафію прыехаў малады і энергічны кс. Генадзь Рамашко. З яго дапамогай пры касцёле многае змянілася: пабудавалі новую ўваходную браму, аднавілі тынкоўку, пафарбавалі дах і аканіцы, адрамантавалі вежу, спілавалі старыя дрэвы, што ўжо неслі небяспеку, выкарчавалі пні, побач з касцёлам паставілі лаўкі і высадзілі клумбы, упарадкавалі і выраўнялі пляц, паклалі тратуарную плітку, адрэстаўрыравалі крыж. Працы пад кіраўніцтвам пробашча выконвалі парафіяне, моладзь і нават дзеці.*

*Дзякуючы адданай любові святара да Пана Бога вернікі пазналі, што такое святая гадзіна ў 23.00 ноччу ў першыя чацвяргі месяца, першыя пятніцы пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце, ружанцовае чуванне ў першыя суботы месяца ля ног фігуры Маці Божай Фацімскай, малітва за хворых у кожную другую суботу месяца (на гэтае набажэнства прыязджалі таксама асобы з іншых парафій). Стараннямі ксяндза мы мелі магчымасць праглядзець фільмы пра жыццё св. Вінцэнта Палоцці і св. Яна Паўла II, пра аб'яўленне Маці Божай Фацімскай. Кс. Генадзь таксама арганізаваў прыгожы касцёльны хор і тэатральнае кола для дзяцей. Усё гэта святар старацца рабіць з вялікай любоўю да кожнага чалавека. Сваё жыццё, час і веды з адданасцю прысвячаў парафіі, не шкадуючы сябе.*

***Паважаны кс. Генадзь, няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Маці Божая Фацімская, да якой нас вялі на працягу 5-ці гадоў, ахінае Вас сваёй апекай у святарскім жыцці, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом. Дзякуем за любоў і цярплівасць да нас, за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, навучанне дзяцей катэхезе і добрае сэрца. Аддзяч, Божа!***

*Удзячныя вернікі з парафіі Германішкі*

## НАВІНЫ



### Малітоўная акцыя “24 гадзіны для Пана”

У пачатку сакавіка ў касцёлах св. Францішка Ксаверыя ў Гродне і Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе адбыліся набажэнствы, спалучаныя з эўхарыстычнай адарацыяй. На працягу 24-ох гадзін вернікі мелі магчымасць прыступіць да сакраманту споведзі і індывідуальна памаліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Велікапосная ініцыятыва ўжо не ўпершыню арганізоўваецца духавенствам у галоўных святынях дыяцэзіі як адказ на запрашэнне Святога Айца Францішка, які прапануе вернікам усяго свету асаблівым чынам адчуць падчас пакаяннага перыяду прысутнасць Хрыста Эўхарыстычнага.

У парафіях дыяцэзіі надалей трываюць шматлікія рэкалекцыі, малітоўныя сустрэчы, дні засяроджання і цішыні. Вернікі паволі рыхтуюцца да свят. У некаторых парафіях людзі супольнымі намаганнямі ўзяліся за прыгатаванне вербаў, што ўжо стала добрай традыцыяй. Як правіла, сродкі ад іх далейшай рэалізацыі накіроўваюцца на дабрачынныя мэты.

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



За 25 гадоў служэння ў парафіі ў Сапоцкіне дзякавалі Богу падчас св. Імшы сёстры з Кангрэгацыі Дачок Маці Божай Балеснай (серафіткі). Урачыстую Эўхарыстыю з гэтай нагоды ў мясцовым касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх выказаў манахіням удзячнасць за пакорнае, ахвярнае служэнне, за тое, што яны атачаюць апекай хворых, самотных, пажылых людзей, а таксама дапамагаюць дзецям і моладзі выспяваць у веры праз катэхезу, малітоўныя і фармацыйныя сустрэчы, паездкі, пілігрымкі і іншыя душпастырскія акцыі. На заканчэнне манахіням склалі сардэчныя віншаванні парафіяне.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



З нагоды Міжнароднага жаночага дня семінарыйная супольнасць у Гродне сабралася на св. Імшы, каб узгадаць у малітве супрацоўніц, якія сваёй адданай працай у сценах семінарыі далучаюцца да важнай справы фарміравання будучых святароў. Эўхарыстыю цэлебраваў рэктар кс. Раман Рачко. Падчас літургіі ён падзякаваў жанчынам за тое, што на працягу многіх гадоў яны дзеляцца з навучэнцамі сваімі нястомнымі намаганнямі, клопатам і мацярынскай цеплынёй.

З нагоды міжнароднага свята вернікі маліліся за жанчын у шматлікіх касцёлах дыяцэзіі.

### ПАРАФІЯЛЬНЫЯ АДПУСТЫ



Дзень імянін сваіх святынь нядаўна адсвяткавалі парафіяне касцёлаў св. Казіміра ў Путрышках (дэканат Гродна-усход), Ліпнішках (дэканат Іўе), Першамайскім (дэканат Ліда), Уселюбе (дэканат Навагрудак) і капліцы св. Казіміра ў Галавічполлі (дэканат Шчучын). Ва ўрачыстасць святога заступніка дыяцэзіі вернікі ўсіх парафій маглі атрымаць адпуст.

Бліжэйшыя адпусты ў Гродзенскай дыяцэзіі адбудуцца 19 сакавіка ў касцёле св. Юзафа ў Рудзе Яворскай (дэканат Дзятлава), капліцах св. Юзафа ў Гродне і ў Гудзіненце (дэканат Іўе).



### АДНЫМ РАДКОМ

• Дакументы з архіва брыгіцкага касцёла XVI–XX стст. пасля рэстаўрацыі прэзентавалі ў Гродне. • У 75-ую гадавіну расстрэлу 9-ці святароў у лідскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі была цэлебравана св. Імша, падчас якой духавенства і вернікі дзякавалі Богу за дар жыцця і скарб веры мучанікаў ІІ Сусветнай вайны.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**21 сакавіка 1964 г.** – кс. Юльян Бароўка, *проб. Рэпля;*
**25 сакавіка 2005 г.** – кс. прэлат Казімір Шаняўскі, *проб. Радунь;*
**25 сакавіка 2009 г.** – кс. канонік Уладзіслаў Мяшчанскі, *душп. Сапоцкін;*
**26 сакавіка 1942 г.** – кс. Ян Хробаншч, *проб. Капцёўка;*
**26 сакавіка 1997 г.** – а. Францішак Кракоўскі CSsR, *проб. Макараўцы;*
**30 сакавіка 1975 г.** – кс. Станіслаў Сарока, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, *проб. Дзятлава.*

## АНОНСЫ

### КРЫЖОВЫ ШЛЯХ ВУЛІЦАМІ ГОРАДА ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Традыцыйнае набажэнства, якое праводзіць моладзь, адбудзецца 24 сакавіка. Распачнецца св. Імшой у 19.00 у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пасля вернікі пройдуць па Савецкай плошчы да Пабернардынскага ўзгорка, разважаючы над стацыямі Крыжовага шляху Езуса Хрыста.**

*Удзельнікам просьба прынесці з сабой свечкі.*

### ПРАЦЭСІЯ ВУЛІЦАМІ ГРОДНА АДБУДЗЕЦЦА Ў ПАЛЬМОВУЮ НЯДЗЕЛЮ

**Пачатак у 13.00 на Пабернардынскім узгорку. Удзельнікі пройдуць па Савецкай плошчы да катэдральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя, дзе ў 14.00 біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліць св. Імшу.**

*Як і ў мінулыя гады, будзе арганізаваны своеасаблівы конкурс, падчас якога гродзенскія парафіі, а таксама суполкі маладых людзей прэзентуюць свае святочныя вербы. Да ўдзелу запрашаецца моладзь дыяцэзіі.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні на тэму “Наблізіцца да таямніцы Крыжа” пройдуць 23–25 сакавіка ў Вышэйшай духоўнай семінарыі.**

У праграме рэкалекцый – супольнае перажыванне перыяду Вялікіга посту, хвіліны цішыні, разважанні над уласным жыццёвым шляхам. Удзельнікі змогуць узбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы, а таксама адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з алюмнамі і духоўнымі айцамі.

*Запрашаюцца юнакі, а асабліва міністранты, ад 14-ці гадоў. Аб жаданні прыняць удзел у рэкалекцыях неабходна паведаміць да 20 сакавіка. Колькасць удзельнікаў абмежаваная.*

***Адказныя за рэкалекцыі:***
*кс. Валерый Быкоўскі – (8 029) 695-24-69,*
*кс. Андрэй Лішко – (8 029) 744-99-61.*
*Запісацца можна па тэлефоне семінарыі (8 0152) 77-02-34.*

### ВЕЛІКОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ АРГАНІЗУЕЦЦА Ў СМАРГОНІ

**Музычны фестываль адбудзецца пры парафіі св. Міхала Арханёла ў араторыі св. Яна Боско. Ён пройдзе пад дэвізам “Алелюя, Пану заспявайма!” 7 красавіка. Пачатак у 19.00.**

*Салезіянская супольнасць у Смаргоні запрашае ўсіх жадаючых да ўдзелу, каб разам адсвяткаваць Хрыстовае ўваскрасенне.*

### ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ АРГАНІЗУЕ АЎТОБУСНЫЯ ПІЛІГРЫМКІ Ў ПОЛЬШЧУ

**Парафія св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах (дэканат Гродна-захад) ладзіць паломніцтвы на Ясную Гару і ў Святую Ліпку.**

*На Ясную Гару арганізуецца І пілігрымка членаў Апостальства дапамогі чысцовым душам. Яна плануецца 7–10 чэрвеня.*
***Маршрут:** Гродна – Кракаў – Кальварыя Зэбжыдоўская – Чанстахова – Гродна.*

*Пілігрымка ў Святую Ліпку адбудзецца 26–29 ліпеня.*
***Маршрут:** Гродна – Святая Ліпка – Гетивальд – Гданьск – Гдыня – Гродна.*

*Заахвочваюцца ўсе жадаючыя.*

**Тэлефоны для даведак:**
*(8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24.*

## Каляндар падзей

***18 сакавіка***
*V Нядзеля Вялікага посту. У святынях засланяюцца крыжы і абразы Пана Езуса.*

***19 сакавіка***
*Урачыстасць св. Юзафа, Абранніка НПМ. Імяніны дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.*

***25 сакавіка***
*Нядзеля Мукі Пана (Пальмовая). У гэты дзень у святынях асвячаюць вербачкі.*

***29 сакавіка***
*Вялікі чацвер.*

***30 сакавіка***
*Вялікая пятніца. Абавязвае сціслы пост.*

***31 сакавіка***
*Вялікая субота. У святынях бласлаўляюць стравы на велікодны стол.*

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Сакавік***

*Каб духавенства і вернікі, уцягнутыя ў справу арганізацыі І Дыяцэзіяльнага сінода, былі напоўнены дарамі Святога Духа і належным клопатам пра карысць лакальнага Касцёла.*

# Дзяўчынка з добрым сэрцам



Дзве сяброўкі ішлі са школы і нешта паміж сабой абмяркоўвалі. Раптам адна з дзяўчынак усклікнула:

– Каця, глядзі, там бабулька спатыкнулася і ўпала! Бяжым, дапаможам ёй!

Наперадзе, метрах у пяцідзесяці ад іх на зямлі ляжала пажылая жанчына. Яна спрабавала ўстаць, але не магла.

– Ведаеш, Таня, вось падыдуць дарослыя людзі і дапамогуць бабульцы, а мяне дома чакаюць, – адказала другая дзяўчынка, развярнулася і пайшла.

Таня хуценька падбегла да старэнькай жанчыны і працягнула ёй руку, але падняць не змагла.

– Дапамажыце! – закрычала з усяе моцы.

З лаўкі паблізу падхапіўся мужчына. Ён чытаў, але адклаў часопіс і таксама падбег да бабулькі, дапамог ёй устаць на ногі і, усміхнуўшыся, сказаў:

– Бывайце здаровы!

Дзяўчынка падняла з зямлі сумку і падала бабульцы.

– Дзякуй вялікі, Танечка! Дзякуй, родная! – сказала жанчына.

– А Вы мяне ведаеце? – здзіўлена запытала дзяўчынка.

– А хіба ты, дзіцятка, мяне не пазнала? Мы ў адным двары жывём.

І тут Таня разгледзела пажылую жанчыну і пачырванела.

– Прабачце, я сапраўды Вас не пазнала адразу…

– Не бяда! Галоўнае, што ты мне дапамагла. Бачыш, я за каменьчык гэты зачапілася. Заўтра абавязкова папрашу дворніка, каб яго выкапаў. Месца прыкметнае – каля клумбы. А ты, Танечка, прыходзь да нас вечарам. У вас з Каццяй пачастую чаем з торцікам. І абавязкова ёй перадай, што мае сапраўдную сяброўку, дзяўчынку з добрым сэрцам.

*Галіна Зданевіч, г. Ваўкавыск*

## Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, усіх дароў Святога Духа і Божага благаслаўлення на кожны дзень нялёгкай паслугі. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою, шчасця, сіл і радасці.
*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай Пан Езус, Найсвяцейшая Маці і Святы Дух апекуюцца Табой, даюць шмат сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў. Няхай усмешка заўсёды будзе на твары, а кожны дзень нялёгкай душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем.
*Любячая мама з сям'ёй*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**
з нагоды Імянін жадаем стала ўглядацца ў крыж нашага Пана і Яго моцай пераадольваць усе цяжкасці. Няхай Марыя ўмацоўвае Вас, каб штодзённа адказваць Богу "fiat", а ўсе святыя і святы Юзаф заступаюцца перад тронам Езуса, Добрага Пастыра, выпрошваючы патрэбныя сілы, каб даваць сведчанне веры. Аддзяч, Божа, за цудоўны прыклад набожнасці. Шчасці Божа ў далейшай пастырскай паслузе.
*З павагай, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: натхнення Святога Духа на кожны дзень пастырскай паслугі! Няхай святы Заступнік – апякун Божага Сына – выпрошвае ў Нябеснага Айца ўсе ласкі і вядзе па дарозе мужнасці, даверу, пакоры і святасці. Няхай кожны дар, які атрымліваеце ад Пана, становіцца падтрымкай на жыццёвым шляху.
*Апостальства "Маргарытка" з парафіі Ліда-Фара*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**
з нагоды 45-годдзя складаем шчырыя і сардэчныя віншаванні. Няхай Пан Езус будзе шчодрым на свае ласкі, а Яго вялікае добрае сэрца адорыць Вас супакоем. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць моцным здароўем, вытрымкай, любоўю і святлом, каб святарскі шлях быў шчаслівы і благаслаўлёны, а кожны дзень – ясны і радасны. Няхай Маці Божая прытуліць Вас да свайго сэрца, ахіне апекай, а Святы Дух шчодра ўдзеліць свае дары. Верым, што ўсе словы, скіраваныя да нас, засеюць у нашых душах зерне хрысціянскай дасканаласці. У сваіх малітвах дзякуем Богу за тое, што Вы з намі і для нас.
*Удзячныя вернікі з парафіі Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**
з нагоды 40-годдзя шчыра жадаем моцнага здароўя, людской добразычлівасці, шчодрых Божых ласкаў, нястомнай дапамогі Маці Божай, дароў Святога Духа і апекі Заступніка – святога Францішка Асізскага. Мы цешымся, што Вы з намі. Дзякуем маме за сына святара, жадаючы ёй здароўя і Божага благаслаўлення.
*З павагай і малітвай, удзячныя парафіяне са Свіслачы*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**
з нагоды Імянін жадаем Божага благаслаўлення, здароўя. Няхай Усемагутны адорвае Вас сэрцам, якое стане надзеяй і пагоднай раніцай для кожнага спатканага чалавека.
*Апостальства "Маргарытка" з парафіі Беняконі*

**Паважаным Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму і Ксяндзу Каноніку Юзафу Ганьчыцу**
з нагоды Імянін перасылаем самыя цёплыя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, радасці, душэўнага супакою, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай Найсвяцейшае Сэрца Езуса дапамагае Вам на душпастырскім шляху. Шчасці Божа!
*Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы і вернікі з парафіі Сапоцкін*

**Паважанай Сястры Гарэцці Мілeнкевіч**
з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў: здароўя, радасці, непахіснай надзеі, моцнай веры, палымянай любові да Бога і бліжніх, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай святы Заступнік апекуецца Вамі штодзённа, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі, каб маглі цешыцца кожнай хвілінай жыцця і паслугі.
*Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы і вернікі з парафіі Сапоцкін*

**Паважаным Спадарыням Генавефе Марцінкевіч, Вандзе Геда, Вераніцы Бурба і Чаславе Алешчык**
з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, шчасця, радасці на кожны дзень, а ў першую чаргу няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і ўсіх Божых ласкаў.
*Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы і вернікі з парафіі Сапоцкін*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, шмат сонечных дзён і добрых людзей побач. Няхай усемагутны Бог адорыць усімі ласкамі, а святы Заступнік і Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна апекуюцца.
*Мама і сёстры*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**
з нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры і міласэрны Бог адорвае Вас моцным здароўем, цярплівасцю, супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі і дапамагае ў душпастырскім служэнні. Жадаем шчырых і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, радасці і шчодрага плёну ў служэбе Богу і людзям!
*З малітвай, парафіяне з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, поспехаў у душпастырскай працы, радасці і стойкасці на кожны дзень жыцця. Няхай Бог адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай, а Святы Дух асвячае дарогу і дорыць супакой. Шчасці Божа!
*Сям'я Вікторчык і сям'я Сакута*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**
з нагоды 45-годдзя ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, радасці, сіл, моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, добразычлівых людзей побач. Дзякуем за ахвярнае святарскае служэнне, нястомнае абвяшчэнне Евангелля. Няхай Бог благаслаўляе кожны момант жыцця, Марыя адорыць сваёй ласкай і апекай, а Анёл-ахоўнік засцерагае ад усякага зла.
*Удзячныя парафіяне з Сурвілішкаў*

**Паважаны Ксёндз Віктар Субель,**
віншую Вас з Юбілеем! Перасылаю букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за мудрасць, дабрыню, разуменне і клопат аб людзях, за штодзённыя малітвы аб маёй сям'і на працягу некалькіх гадоў. Вы робіце наш свет дабрэйшым і цудоўнейшым, грэеце цяплом сваёй усмешкі і душэўнай шчодрасцю! Жадаю моцнага здароўя, шматлікіх дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Цешуся, што ведаю такога светлага чалавека. Дзякую за добрае сэрца, мудрыя парады, а Вашай маме – за сына святара.
*Ганна Квач і апостальства "Маргарытка" з парафіі Найсвяцейшай Тройцы, Забалаць*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, радасці, ясных дзён, цярплівасці ў душпастырскай працы і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай усмешка дабрыні ніколі не знікае з Вашага твару. Дарога святара нялёгкая, на ёй шмат перашкод. Але мы просім Пана, каб Ён дапамог Вам вытрымаць і перамагчы ўсе цяжкасці.
*З павагай і малітвай, былыя парафіяне з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: шчодрых дароў Святога Духа, усіх Божых ласкаў, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху.
*Мама, брат Дзмітрый і брат Генадзь з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Севасцьяновічу**
з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, сонечных дзён, напоўненых святлом радасці і дабрыні. Няхай Вашае сэрца ніколі не спазнае смутак і трывогі. Дзякуем за цярплівасць, ахвярнасць, клопат і за кожнае праяўленне добразычлівасці, з якім мы сустракаемся. Няхай Езус Хрыстус адорыць Вас сваёй сілай, цярплівасцю і дасць нязгасную мужнасць у барацьбе супраць зла, а Марыя няхай атуляе мацярынскай апекай і дапамагае заўсёды і ўсюды.
*З малітвай, парафіяне з касцёла св. Мікалая, Мір*

**Паважанаму Ксяндзу Збігневу Драгулу**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай святы Заступнік апекуецца Вамі кожны дзень жыцця, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі і дадае сіл у выкананні святарскай паслугі.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Старыя Васілішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Юзафу Ганьчыцу**
з нагоды Імянін жадаем супакою, душэўнай радасці, здароўя і задавальнення ад працы з вернікамі. Няхай добры Бог вядзе Вас прамымі сцежкамі, Марыя Панна атуляе плашчом мацярынскай апекі, а Святы Дух заўсёды жыве ў сэрцы і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае важнае.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, мудрасці, цярплівасці. Жадаем, каб Усемагутны адорваў Вас сваім благаслаўленнем, Езус Хрыстус ахоўваў ад бед, а Маці Божая нястомна апекавалася Вамі. Дзякуем за нязгасны запал у нялёгкай святарскай паслузе, за шчырую і аддадную службу Богу і людзям, а таксама за клопат пра нас і нашу святыню.
*Парафіяне з касцёла свсв. Космы і Дам'яна, Астравец*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Рычарду Якубцу**
з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем усіх Божых ласкаў і няспыннай апекі Панны Марыі, здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці, добрых і сардэчных людзей побач, душэўнага супакою і ўсяго найлепшага. Мы дзякуем Вам за збудаваны касцёл і за тое, што адкрылі нам дзверы да Усявышняга, за ахвярную працу на карысць Богу і людзям, клопат аб парафіянах, добрыя словы і справы.
*Удзячныя парафіяне з касцёла Маці Божай Тройчы Цудоўнай, Масты*

**Паважаная Спадарыня Тэрэса!**
З нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: радасці, поспехаў, сілы і цярплівасці, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама Божага благаслаўлення і апекі Марыі Панны. Шчыра дзякуем за правядзенне Крыжовага шляху ў нашай парафіі і цудоўны спеў, якім суправаджаеце літургію. Няхай Бог Вам за ўсё аддзячыць.
*Вернікі з в. Плоскаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Генадзю Рамашко**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем здароўя, аптымізму, сонечных дзён і радасці. Няхай Ваша паслуга на ніве Пана прыносіць задавальненне і шчодры плён. Бог няхай благаслаўляе на доўгія гады жыцця, а Марыя Панна ахінае сваёй мацярынскай апекай.
*Удзячныя парафіяне з Германішкаў*

**Паважанага Ксяндза Прэлата Юзафа Трубовіча**
віншуем з Імянінамі! Жадаем, каб Бог заўсёды выслухоўваў Вашы малітвы і працягваў руку дапамогі ў цяжкія хвіліны. Хочам пажадаць таксама ўсіх неабходных Божых ласкаў, моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа. Заўсёды заставайцеся для нас прыкладам адданай веры і набожнасці!
*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

Калі ў адной каталіцкай сям'і ў свята Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі нарадзілася дзяўчынка, то нават не было сумненняў, як яе назваць – вядома, Марыя. Палічылі, што тая будзе старацца пераймаць сваю заступніцу і тым самым прыносіць радасць усім, хто яе акружае. На сваім жыццёвым шляху нам пашчасціла спаткаць такога чалавека, да якога заўжды можна звярнуцца за парадай. У любых спрэчных пытаннях імкнёмся ўявіць сабе, як бы на нашым месцы паступіла гэтая годная асоба. Намагаемся прытрымлівацца поглядаў, аб якіх жанчына сведчыць прыкладам свайго жыцця. Па-першае, калі Бог на першым месцы, то і ўсё астатняе на сваім месцы. Па-другое, дастаткова за ўсё падзякаваць, і тады не трэба будзе ні аб чым прасіць. Па-трэцяе, наша збаўленне – не ўдзел у хлусні.

Напярэдадні Дня нараджэння хочам выказаць шчырыя словы віншаванняў Марыі Ксавер'еўне, якая нарадзілася ў вёсцы Лябёдка Шчучынскага раёна 25 сакавіка 1958 года. Жадаем ёй усіх неабходных ласкаў і Божага благаслаўлення на кожны дзень!

*З удзячнасцю, знаёмыя*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1591; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная